*Першая сэсія новага беларускага парламанту прызначаная на 9 студзеня, але на яе правядзеньне пакуль няма ні капейкі (стар.2)*



# СВАБОДА

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 93 000
Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

22 сьнежня 1995 г. №61 Кошт свабодны

# Бітва за сьпікера

## *Адны хочуць, але ня могуць, іншыя могуць, але ня хочуць*

**Пасьля шчасьлівага заканчэньня інтрыгуючай і вострай драмы пад назовам "Абраньне дзеяздольнага парламанту" на першы план для палітычна актыўнай беларускай грамадзкасьці выйшла пытаньне аб асобе новага сьпікера.**

І гэта цалкам лагічна: людзкая псіхалогія ня можа ўспрымаць з аднолькавай увагай усіх 198 дэпутатаў, у сьвядомасьці сярэдняга грамадзяніна абавязкова замацуецца якое-небудзь клішэ аб новым Вярхоўным Савеце. Вядома, што "парламанцкі штамп" будзе сур'ёзна залежыць ад фігуры сьпікера, у ягоным іміджы і асобе шырокія народныя масы ў значнай ступені пэрсаніфікуюць сваё ўяўленьне пра ўвесь парламант.



Некаторыя дасьведчаныя палітыкі гэта ўжо разумеюць, актыўна ствараючы ў апошнія дні своеасаблівае ідэялагемнае поле для постаці будучага сьпікера. Абвяшчаюцца якасьці, якімі мусіць валодаць гэты чалавек: вопытны, спакойны, талерантны, мудры, разважлівы, прадказальны. Нескладана заўважыць, што паводле такіх характарыстык старшыня Вярхоўнага Савету разглядаецца як супрацьпастаўленьне імпульсіўнаму і канфліктнаму прэзідэнту.

Перш чым перайсьці да пэрсаналіяў, неабходна адзначыць, што вельмі многае будзе залежыць ад паводзінаў Аляксандра Лукашэнкі ў час, што застаўся да адкрыцьця сэсіі 9 студзеня. Калі ён кіне якую-небудзь чарговую "гістарычную" заяву ў бок заканадаўчай улады, ці пачне утвараць матар'яльныя перашкоды правядзеньню першага паседжаньня, узрастуць шанцы праціўнікаў прэзідэнта, якія будуць пераконваць іншых дэпутатаў у сваёй выключнай здольнасьці бараніць інтарэсы ўсяго парламанту. Калі ж Лукашэнку ўдасца наступіць на горла ўласнаму характару і правесьці гэтыя дні спакойна, у разважлівых кансультацыях, сьпяваючы песьні аб згодзе і кансалідацыі, выканаўчая ўлада мае шанец атрымаць на пасадзе сьпікера дагаворнага і задавальняючую яе фігуру. Пры любым раскладзе, аднак, варта зразумець, што любы, нават самы лаяльны да прэзідэнта чалавек на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савету пачне добра ўсьведамляць уласныя інтарэсы, заканамерна аддаляючыся ад выканаўчай улады.

Як гэта не парадаксальна, але зусім няшмат шанцаў стаць сьпікерам маюць прадстаўнікі фракцыі камуністаў. Выразная ідэалягізаванасьць і класавасьць ПКБ ніяк не адпавядае вышэйназваным крытэрыям, паводле якіх будуць выбіраць старшыню Вярхоўнага Савету. Зр шты, і ў саміх камуністаў можа хапіць розуму нават не выстаўляць уласнага кандыдата – навошта ім "падстаўляцца" пад схему "народны прэзідэнт змагаецца супраць камуністычнага сьпікера"? Камуністы і так лішні раз любяць падкрэсьліць, што ніякай большасьці ў парламанце ў іх няма.

У час сустрэчы-кансультацыі з Лукашэнкам 18 сьнежня пытаньне аб старшыні Вярхоўнага Савету па просьбе саміх камуністаў (маўляў, "мы яшчэ не гатовыя") не абмяркоўвалася. Відавочна, што найбольш пэрспэктыўныя фігуры ў фракцыі – **Сяргей Калякін** і былы першы сакратар Віцебскага абкаму **Уладзімер Грыгор'еў**. У любым выпадку пасаду аднаго з намесьнікаў сьпікера камуністы запатрабуюць абавязкова, і цалкам заканамерна, што яе атрымаюць. Дарэчы, афіцыйнае рашэньне аб вылучэньні прадстаўніка ПКБ у старшыні Вярхоўнага Савету будзе прымаць ня фракцыя, а партыя, што выклікае лёгкую іронію. Як паведаміў мне дэпутат Валерый Шчукін, гэта адбудзецца ў першыя дні студзеня. ПКБ таксама можа прапанаваць свайго кандыдата чыста з тактычных меркаваньняў, асабліва не спадзяючыся на перамогу – тады гэта будзе зусім не вядомая раней фігура.

У адрозьненьні ад камуністаў, аграрыі маюць значна больш рэальныя шанцы на сьпікерскае крэсла. "Нашыя недахопы ёсьць працяг нашых перавагаў". У гэтым сэнсе "партыйны недахоп" аграрыяў (неканкрэтнасьць праграмы, няпэўнасьць прынцыпаў) становіцца перавагай з пункту гледжаньня прэтэнзіяў на пасаду старшыні. З ідэалягічнага пункту гледжаньня фракцыя зусім не зьяўляецца аднароднай, ўяўляе сабой па-сутнасьці сельскагаспадарчае лобі. Да таго ж у фракцыі пакуль няма розначытаньняў наконт лідара – у гэтай ролі даволі трывала ўмацаваўся **Сямён Шарэцкі**, які, паводле некаторых дадзеных, мае самыя сур'ёзныя намеры адносна пасады сьпікера. Цешыць Шарэцкага можа сьветлы вобраз Івана Рыбкіна, які ўзыйшоў на кіраўніка расейскай Думы менавіта з аграрнай прыступкі.

У прынцыпе, калі аграры паяднаюцца з камуністамі ў справе вылучэньня Шарэцкага, яны будуць вельмі блізкія да перамогі (разам гэтыя фракцыі складаюць каля 45%). Але пры падобным разьвіцьці падзеяў большасьць беспартыйных дэпутатаў вымушана будзе згуртавацца супраць такой вялізнай сілы, каб захаваць раўнавагу ў парламанце. Да таго ж наўрад ці фігура Шарэцкага вельмі спадабаецца прэзідэнту – Лукашэнка з лідарам аграрыяў ужо абмяняліся некалькімі непрыемнымі публічнымі рэплікамі. Акрамя ўсяго, абраны такім спосабам сьпікер будзе зьвязаны ў сваіх дзеяньнях, і стане ўспрымацца выключна як стаўленьнік аднаго лагеру, што не паспрыяе ягонаму аўтарытэту. Таму Шарэцкі відавочна будзе імкнуцца балансаваць паміж рознымі сіламі, і пойдзе на хаўрус з камуністамі толькі ў выключным выпадку. Мінусам Шарэцкага зьяўляецца, аднак, тое, што ён пакуль ня мае вялікіх (у тым ліку і міжнародных) сувязяў і значнага палітычнага капіталу.

Ад некаторых пластоў свайго палітычнага капіталу наступны рэальны прэтэндэнт – **Вячаслаў Кебіч** – магчыма, хацеў бы і пазбавіцца. Але шлейф мінулага нязьменна пацягнецца за былым прэм'ерам, ахутваючы рознымі непрыемнасьцямі ягоную кар'еру. У прынцыпе, Кебіч мае шанцы стаць прыймальным амаль для ўсіх удзельнікаў сёньняшняй палітычнай сцэны. Камуністам Кебіч можа шапнуць, што згодны вярнуць ім некалькі прыгожых будынкаў партыйнай маёмасьці, аграрыям паабяцаць новыя крэдыты, прамыслоўцам нагадаць, як добра ім жылося пры Вячаславе Францавічы, усім разам – заявіць, што толькі ён здольны дамовіцца з "Нашым домам – Газпромам" і г.д. Пры сваім жаданьні ды ўмелых паводзінах Кебіч можа стаць прыймальнай фігурай амаль для ўсіх, акрамя некалькіх дзесяткаў дэмакратаў і маладых лукашэнкаўскіх "ваўкоў".

Невядомымі да апошніх дзён застануцца толькі дзьве акалічнасьці. Па-першае, ці захоча сам Кебіч ісьці кіраваць гэтым, на думку многіх, недаўгавечным парламантам. З аднаго боку, разумней было б ня ўвязвацца, але з іншага, узрост такі, што другога шанца можа і ня быць. А па-другое, загадкай застаюцца адносіны прэзідэнта да гэтай кандыдатуры. Ведама ж, Лукашэнка адчувае, што ён абкружаецца кебічаўскімі кадрамі – але што рабіць – іншых няма. Нельга выключаць, што ў самы вырашальны момант Кебіч можа паступіць праланова стаць прэм'ер-міністрам, да чаго настойліва падштурхоўваюць Лукашэнку некаторыя ягоныя паплечнікі. У той жа час, напэўна, ў прэзідэнцкіх структурах "на ўсялякі выпадак" ляжаць некалькі папачак з ня вельмі прыемнымі для Кебіча матар'яламі. Таму ў апошні момант, улічваючы расейскі вэктар, Лукашэнка можа пагадзіцца на сьпікерства свайго ворага, які будзе апантана даказваць, што ён сябар.

Значна менш эксцэсаў было б пры разглядзе кандыдатуры "галоўнага арганізатара" СНД **Івана Каратчэні**. Улічваючы свой спакойны і бесканфліктны імідж апошніх гадоў, Каратчэня меў бы значныя шанцы ў бітве за сьпікерства. Я кажу "меў бы", бо амаль упэўнены, што Выканаўчы сакратар Садружнасьці ні за што не прамяняе сваю высокую "непалітычную" міжнародную пасаду на нэрвовае і неспакойнае месца старшыні Вярхоўнага Савету.

Сур'ёзныя шанцы мае і старшыня Кантрольнай палаты **Васіль Саковіч**. У апошнія месяцы, пасьля стварэньня кантрольных органаў пры прэзідэнце, роля і ўплыў Кантрольнай палаты істотна панізіліся, таму Саковіч напэўна быў бы ня супраць заявіць пра сябе з новай сілай. Саковіч – даволі рэдкі чалавек з былой камуністычнай намэнклатуры (апошняя партыйная пасада – інструктар абкаму ў Віцебску), які не запляміў сябе ніякім падазронымі гісторыямі. На сваіх калегаў-дэпутатаў ён заўсёды рабіў уражаньне фігуры самастойнай і ня вельмі кіруемай. Гэта і можа выклікаць пярэчаньні з прэзідэнцкага боку.





НА ЗДЫМКАХ:
*дэпутаты Вярхоўнага Савету Васіль Саковіч (зьлева) і Сямён Шарэцкі*

Даволі распаўсюджаны на Беларусі тып палітыка – якія ніколі не бываюць рэзка "супраць" – прадстаўляе лідар афіцыйных прафсаюзаў **Уладзімер Ганчарык**. Але тут ягоная "памяркоўнасьць" і "ўзважанасьць" можа згуляць з Ганчарыкам благі жарт: дэпутаты могуць слушна вырашыць, што для абароны іхных інтарэсаў патрэбны чалавек, больш канкрэтны ў сваіх дзеяньнях.

**Мечыслаў Грыб**, на нашу думку, мае невялікія шанцы, ды і то толькі ў выпадку рэзкага канфлікту падчас выбараў сьпікера паміж выканаўчай і заканадаўчай уладай. Пры іншым варыянце расклад не на ягоную карысьць. Акрамя таго, фігура Грыба можа паўстаць у магчымай патавай сітуацыі пасьля правалу першай спробы абраць старшыню Вярхоўнага Савету. **Уладзімер Ягораў** у пэўнай сітуацыі і пры ўласным жаданьні мог бы аб'яднаць пры галасаваньні дэмакратычна і рэфармісцкі накіраваных дэпутатаў. Але камуністы не даруюць яму выдачу літоўскіх "таварышаў" Ермалавічуса і Буракявічуса, ды і сам шэф КДБ самастойнай палітычнай актыўнасьці пакуль не выяўляе.

Астатнія кандыдаты, на нашую думку, адпавядаюць прыказцы "хочуць, але ня могуць". Будзе вылучаны хто-небудзь з так званых маладых – напрыклад, **Віктар Цярэшчанка**, які актыўна стварае сваю фракцыю – але час такіх палітыкаў яшчэ не прыйшоў. Напэўна ў дэпутатаў хопіць розуму не пагадзіцца на чыста прэзідэнцкага стаўленьніка. **Ганчар, Шлындзікаў, Сечка, Краўчанка, Багданкевіч** – усе гэтыя асобы таксама фігуруюць "у сьпісах" аналітыкаў, але нават пры нейкіх надзвычайных абставінах іхныя кандыдатуры па розных прычынах ня маюць рэальных шанцаў.

Камусьці, можа, здаецца, што хітрыя камуністы пажадаюць пасадзіць на месца сьпікера дэмакрата – але гэта хутчэй з галіны наіўных фантазіяў. У 1991 яны маглі абраць "чужога" Шушкевіча, каб схавацца за ягонай дэмакратычнай сьпіной. Але цяпер, пры наяўнасьці прэзідэнта, у такой шыльдзе няма неабходнасьці. Таму старшынём будзе абраны толькі "свой" кандыдат, "свой" па менталітэту і біяграфіі. Старшынём Вярхоўнага Савету, безумоўна, стане чалавек "з мінулага" і "чалавек з мінулым".

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Што запішуць у працоўную кніжку экс-дэпутату?

**З якой фармулёўкай у працоўнай кніжцы пойдуць 9 студзеня з Вярхоўнага Савету дэпутаты 12-га скліканьня? Згодна з якім законам афармяць пэнсію тым парламантарам, чый узрост стаў пэнсійным: законам аб дзяржаўным служачым ці аб Вярхоўным Савеце?**

Гэтыя, а таксама іншыя падобныя пытаньні, якія тычацца працэдуры складаньня паўнамоцтваў былымі дэпутатамі, абмяркоўваліся на паседжаньні Прэзідыюму ВС у мінулую сераду. Дэпутаты, паспрачаўшыся ў апошні раз, утварылі спэцыяльную групу начале з Уладзімерам Леўчыкам, якой даручылі правесьці неабходныя кансультацыі з юрыстамі і знайсьці адказ на ўсе тэхнічныя пытаньні.

Дэпутаты 12-га скліканьня адыходзяць з палітычнай сцэны з горда паднятай галавой. Рыхтуецца невялікі зварот да грамадзянаў з падзякай за давер і доўгае цярпеньне. А што грошай няма на разьвітальны банкет, то гэта нават добра і выглядае як бескампрамісная спроба адмовіцца ад дурной традыцыі.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

## Напад на супрацоўніка КДБ

**У нядзелю, 17 сьнежня, каля 4 гадзіны раніцы ў сталічным мікрараёне Серабранка група невядомых напала на супрацоўніка цэнтральнага апарату КДБ.**

У выніку нападу апошні быў па-зьверску зьбіты. У яго "сканфіскавалі" табэльны пісталет з 8 патронамі. Цяпер пацярпелы знаходзіцца ў шпіталі. Тым часам КДБ разам з міліцыяй праводзіць шырокамаштабную апэрацыю з мэтай адшукаць злачынцаў. Адначасова, па неафіцыйнай інфармацыі, у Камітэце дзяржаўнай бясьпекі высьвятляюць матывы зьяўленьня свайго супрацоўніка ў такі раньні час на вуліцы горада і акалічнасьці знаходжаньня ў яго зброі, якую дазваляецца мець пры сабе па-за службай толькі з дазволу начальства пры выкананьні спэцыфічных заданьняў.

*СІМ*

*Наступны нумар СВАБОДЫ выйдзе ў пятніцу, 29 сьнежня. Аўторкавы нумар мы вымушаныя прапусьціць з прычыны таго, што друкарня і пошта сьвяткуюць Каляды.*

*Рэдакцыя*

# Дэпутаты на выданьні

## *У апошнія дні ў Вярхоўным Савеце разгарэлася зацятая барацьба за душы і подпісы беспартыйных дэпутатаў*

Кожная фракцыя лічыць сваім сьвятым абавязкам прыдбаць сабе яшчэ хаця б некалькі дзесяткаў дэпутатаў. Прынамсі, мяркуючы па заявах прадстаўнікоў розных палітычных сілаў, можна падумаць, што ў нашым Вярхоўным Савеце не 98 беспартыйных парламантарыяў, а, як мінімум, у два разы больш.

Днямі правяла сваю прэс-канфэрэнцыю фракцыя Сацыял-дэмакратычнага саюзу, якую пакуль прадстаўляюць 16 дэпутатаў. Аднак Пятро Краўчанка, якому на прэс-канфэрэнцыі давялося "адпрацоўваць" за сваіх ня вельмі красамоўных калегаў, заявіў, што СДС разьлічвае павялічыць сваё прадстаўніцтва ў парламанце да 30-40 чалавек. Незразумела, аднак, на якім ідэалагічным грунце пачнуць гуртавацца вакол СДС беспартыйныя дэпутаты – нават на прэс-канфэрэнцыі еднасьці сярод паплечнікаў не назіралася: прадстаўнік Партыі народнай згоды Уладзімер Нісьцюк меў на сваім пінжаку значок з выявай лукашэнкаўскага сьцягу, а дэпутат ад Грамады Павал Знавец упрыгожыў свой касьцюм бел-чырвона-белым сьцяжком. Пятро Краўчанка выдатна раскрываў асноўныя прынцыпы беларускай і сусьветнай сацыял-дэмакратыі. Уладзімер Нісьцюк выказаў свой пункт гледжаньня: дэпутат, паводле словаў аднаго выбаршчыка, штучны тавар, таму парламантарый ня мае права займаць нейкую адну канкрэтную пазіцыю.

У сераду правялі "ўстаноўчы сход" і лібэралы, што гуртуюцца вакол Аб'яднанай грамадзянскай партыі, абраўшы сваім лідарам Станіслава Багданкевіча. "Запіс у фракцыю", відаць, пакуль ідзе з пераменным посьпехам, бо колькасьць далучаных дэпутатаў не раскрываецца. Вядома, аднак, што гэта ўжо каля 20 чалавек, але АГП жадае фігураваць толькі цалкам канкрэтнымі лічбамі. Зрэшты, рэальныя карты ўсе ігракі раскрыюць толькі 9 студзеня.

Між тым, пэўныя складанасьці для партыйных аб'яднаньняў тлумачацца тым, што ў бой рашуча ўступілі новыя сілы. "Працу з дэпутатамі" актыўна пачаў прэзідэнцкі бок, ствараючы "фракцыю беспартыйных". Заяву аб гэтым намеры падпісалі 13 чалавек (паўсюль адны сімвалы!) – відавочна, што ў фракцыю увойдуць найперш "вэртыкальшчыкі" і тыя, хто жадае імі стаць.

Аб стварэньні дэпутацкага аб'яднаньня "Кансалідацыя" аб'явіў Віктар Цярэшчанка – адзін з першых "адстаўнікоў" з каманды Лукашэнкі. Па словах ініцыятара аб'яднаньня, ужо ў сераду "кансалідавацца" выказалі жаданьне 27 чалавек. Цярэшчанка сьцьвярджае, што гэта пераважна кіраўнікі бізнэсу і прамысловых прадпрыемстваў – своеасаблівае рынкава-прамысловае лобі.

Аднак іншыя палітыкі лічаць, што група Цярэшчанкі зьяўляецца па сутнасьці прапрэзідэнцкай. Нагадаю, што яшчэ на першай прэс-канфэрэнцыі "аб'яднаных грамадзянаў" адразу пасьля выбараў Цярэшчанка сеў побач з пераможцамі (хаця ніхто яго туды не запрашаў). І раптам праз некалькі дзён пачаў утвараць сваю фракцыю... Адзін з дэпутатаў ад АГП выказаўся такім чынам: "паабяцалі яму нешта – вось ён і пайшоў пад прэзідэнта". Сам Цярэшчанка сваю "прапрэзідэнцкасьць" адмаўляе, заяўляе пра ўласны правацэнтрызм і аб прыярытэце эканамічных праблемаў. Некаторыя дэпутаты лічаць, што былы паплечнік Лукашэнкі будзе вылучацца на пасаду сьпікера, і атрымае ў гэтым падтрымку ад прэзідэнта.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

# Немцы хацелі заваліць Босьнію нашымі коўдрамі

**Сёлета гарадзенскі тонкасуконны камбінат вырабіў 100 тысяч коўдраў на нямецкі заказ. Гэтыя коўдры пасылаліся немцамі ў якасьці гуманітарнай дапамогі ў краіны былой Югаславіі.**

Увогуле, немцы замовілі 1 мільён коўдраў, аднак з прычыны фінансавых цяжкасьцяў камбінат ня здолеў вырабіць такую колькасьць. Цяпер, калі наступіла зіма, гарадзенскія коўдры былі б вельмі дарэчы на Балканах. Але ўласныя пазыкі, неплацяжы партнэраў і даляравая "страта вагі" паставілі камбінат у дзіўнае становішча: маеш выгодны заказ, хочаш зарабіць, але ня можаш.

**А.Б.**

# Ад машынаў адныя толькі клопаты

**Штомесяц у сярэднім 50 тысяч аўтамабіляў мінаюць КПП Брузгі на польска-беларускай мяжы.**

Практычна ўсе яны праяжджаюць па вуліцах Горадні. Натуральна, што пры гэтым псуюцца дарогі. Таму на мяжы быў уведзены мясцовы збор з транзітнага аўтатранспарту, які прызначаны менавіта на рамонт дарогаў. Аднак грошы гэтыя трапляюць у абласны бюджэт, а гораду не дастаецца нічога.

У Горадні, праўда, сёлета таксама быў заснаваны "дабраахвотны" пазабюджэтны фонд, на грошы якога рамантуюць вуліцы. Аднак гарадзкія ўлады наракаюць на тое, што 65% гэтага выключна мясцовага збору забіраецца ў Менск. Тым часам стан вуліцаў хутка пагаршаецца. У самой Горадні за апошні год колькасьць легкавых аўтамабіляў павялічылася ўдвая – да 51 тысячы. Апроч таго ў прыватных руках на сёньня ёсьць 11 тысяч грузавікоў.

**Антон БАЗЫЛЕВІЧ**

# Першая сэсія пачнецца 9 студзеня

**Гэтае рашэньне было прынятае на паседжаньні Цэнтральнай выбарчай камісіі 19 сьнежня.**

Першапачатковая дата пачатку працы сэсіі новага парламанту – 3 студзеня – была перанесеная на просьбу дэпутатаў ад Партыі камуністаў і Аграрнай партыі. Па-першае, яшчэ ня ўсе дэпутацкія аб'яднаньні правялі кансультацыі паміж сабой, а па-другое, 7 студзеня – Каляды, выходны дзень. Такім чынам, першая сэсія Вярхоўнага Савету пачнецца 9 студзеня а 10 гадзіне раніцы. Адно з найбольш балючых пытаньняў – пытаньне аб фінансаваньні працы першай сэсіі. Як сказаў на паседжаньні начальнік сакратарыяту Аляксандар Анціпенка, "усе пытаньні, акрамя фінансаваньня, практычна вырашаныя ці вырашацца у бліжэйшыя дні. Для падрыхтоўкі да першай сэсіі няма ні капейкі". Па самых сьціплых падліках, адзначыў А.Анціпенка, на падрыхтоўку і правядзеньне толькі першага дня сэсіі спатрэбіцца каля 500 мільёнаў рублёў, на наступныя дні – па 50 мільёнаў. Адміністрацыя гасьцініцы "Кастрычніцкая" адмаўляецца засяляць новых парламантараў, паколькі доўг ранейшых складаў больш за 100 мільёнаў. Дэпутацкія значкі народныя абраньнікі так і не атрымалі – за іх сакратарыят павінен заплаціць 33 мільёны рублёў. Па падліках сакратарыяту, падчас работы сэсіі павінны працаваць, як мінімум, 10 дзяжурных машынаў – цяпер у Вярхоўнага Савету няма ніводнай. Пасьля працяглых дыскусіяў прадстаўнікоў бакоў, якія маюць дачыненьне да скліканьня першай сэсіі новага Вярхоўнага Савету, Цэнтарвыбаркам прыняў наступнае рашэньне: зыходзячы з таго, што першая сэсія будзе доўжыцца каля месяца, камісія просіць Кабінэт міністраў да 25 сьнежня пералічыць 2,5-3 мільярды рублёў на яе правядзеньне.

*БелаПАН*

# Абаронім прэзідэнта і ягоную радзіму

**У Магілёве адбылося паседжаньне новаабраных дэпутатаў Вярхоўнага Савету, наладжанае абласной вэртыкальлю.**

Як стала вядома карэспандэнту СВАБОДЫ, акрамя заклікаў абараняць у парламанце інтарэсы вобласьці, у гэтага сходу былі і іншыя мэты. У дэпутатаў зьявіўся рэгіянальны каардынатар – дарадца прэзідэнта Уладзімер Канаплёў. Пасьля агульнага сходу быў праведзены сход беспартыйных дэпутатаў, на якім, паводле нашых зьвестак, ішла гутарка пра стварэньне прапрэзідэнцкай фракцыі ў парламанце і адпаведнай партыі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



ПАДРАБЯЗНАСЬЦІ

# Курс беларускага рубля ўтрымліваць ад падзеньня ўсё цяжэй

## *Нацыянальны банк Беларусі зрабіў у апошнія дні шэраг захадаў, накіраваных на далейшае ўтрыманьне курсу беларускага рубля*

Як вядома, у апошнія месяцы Нацбанк вымушаны быў, задавальняючы попыт на замежную валюту на Міжбанкаўскай валютнай біржы (МВБ), прадаваць на ёй сродкі са сваіх валютных запасаў. Аднак гэта не магло працягвацца бясконца ў сувязі з абмежаванасьцю гэтых запасаў. Верагодна, іх вычарпаньне і падштурхнула да пошуку новых шляхоў утрыманьня курсу беларускага рубля ад падзеньня.

У прыватнасьці, Нацыянальны банк накіраваў камэрцыйным банкам і на Міжбанкаўскую валютную біржу ліст, з распрацаваным Міністэрствам эканомікі пералікам прадукцыі, на закупку якой павінна быць прадастаўлена права першачарговага набыцьця на МВБ валютных сродкаў. У пераліку больш чым 20 пазіцый (электраэнэргія, нафта і нафтапрадукты, прыродны газ, каменны вугаль, металічныя трубы і інш.).

Акрамя таго, днямі Нацбанк накіраваў камэрцыйным банкам тэлеграму, у якой паведамляецца, што ўдзельнікі таргоў на МВБ разам з папярэдняй заяўкай на пакупку замежнай валюты абавязаны ў якасьці ўмовы допуску да таргоў прадаставіць рэестар. У ім, акрамя іншых зьвестак аб суб'екце гаспадараньня, павінны быць указаны рэквізіты кантракта ці іншага дакумента, на падставе якога пададзеная заяўка, а таксама дакладная назва набываемага за мяжой тавару.

Раней быў закрыты міжбанкаўскі валютны рынак (ня блытаць з МВБ) для апэрацый з сумамі замежных валют, якія перавышаюць адну тысячу долараў ЗША. Цяпер жа ўведзеныя абмежаваньні на закуп замежнай валюты і на Міжбанкаўскай валютнай біржы. Вядома, ва ўмовах, калі попыт на валюту на МВБ перавышае прапанову, першачарговы продаж яе пад названыя у пераліку тавары азначае немагчымасьць ці невялікую верагоднасьць набыцьця валюты для закупкі іншых тавараў. Гэта пагражае ростам цэн і зьбядненьнем рынкаў імпартнай відэатэхнікі, аргтэхнікі, прадуктаў харчаваньня і г.д. Такая сітуацыя можа падштурхнуць шэраг удзельнікаў валютнага рынку на пошук магчымасьцяў набыцьця валюты не на МВБ. А гэта вядзе да актывізацыі "чорнага рынку" валюты, правакуе парушэньне ўдзельнікамі зьнешнеэканамічнай дзейнасьці шэрагу нарматыўных дакумантаў.

У цэлым жа можна гаварыць аб тым, што кіраўніцтва рэспублікі дзеля ўтрыманьня афіцыйнага курсу беларускага рубля гатовае рызыкаваць зьбядненьнем рынку шэрагу тавараў, ростам курсу наяўных замежных валютаў і цэнаў на імпартныя тавары, не ўключаныя ў пералік, а, значыць, павышэньнем інфляцыі. Зробленыя Нацбанкам захады парушаюць таксама абавязацельствы, дадзеныя беларускім урадам Міжнароднаму валютнаму фонду.

**Сяргей СЬНЕГІН,**
*БелаПАН*

# Ён любіў камунізм, але яшчэ больш грошы

## *У Магілёве затрыманы буйны мясцовы прадпрымальнік Барыс Кліменка, кіраўнік АТ «Фрам» і АТ «Белінка». Яго абвінавачваюць у крадзяжах у асабліва буйных памерах*

Спачатку Б.Кліменка праславіўся тым, што першым сярод буйных бізнэсмэнаў паведаміў пра свае камуністычныя прыхільнасьці, стаў матар'яльна падтрымліваць камуністаў і іх газэту "За единство".

Але галоўная "слава" прыйшла да Б.Кліменкі, калі дзейнасьцю ягоных фірмаў зацікавіліся праваахоўныя органы.

Скандалы з крымінальным адценьнем пачалі азданбляць імідж камуніста-капіталіста. Але вялікага страху ў Кліменкі ўсё гэта не выклікала. Ён працягваў сваю камэрцыйную дзейнасьць і грамадзка-палітычную актыўнасьць: абіраецца членам ЦК ПКБ, падтрымлівае перадвыбарчую платформу А.Лукашэнкі і сёлетняй вясной сам балатуецца кандыдатам у Вярхоўны Савет, "заліўшы" і "засыпаўшы" таннымі гарэлкай і цукрам сваю акругу, ледзь не ўласнаручна аддаючы тавар удзячным выбаршчыкам.

Вось тут у Кліменкі і пачаліся непаразуменьні з паплечнікамі па партыі – ён фактычна перабег дарогу афіцыйнаму вылучэнцу ў парламант ад ПКБ, які балатаваўся ў гэтай акрузе. І хоць выбары не адбыліся( не прыйшла дастатковая колькасьць выбаршчыкаў), аднак Кліменка, які набраў найбольшую колькасьць галасоў, не губляў надзею і пачаў рыхтавацца да восеньскай кампаніі. Але вылучыцца яму зноў не далі. Якраз напярэдадні паўторных выбараў пачала раскручвацца крымінальна-гаспадарчая гісторыя, зьвязаная з фірммай "Белінка". І калі раней падобныя справы завяршаліся ўсяго толькі артыкуламі ў мясцовым друку, то цяперашняя гісторыя набыла для Кліменкі непрыемны паварот. Прадпрымальнік-камуніст вымушаны быў кінуць свае перадвыбарчыя планы і заняцца высьвятленьнем адносінаў з Фэмідай. У выніку акруга вызвалілася ад моцнага суперніка.

На думку мясцовых назіральнікаў, камуністы вырашылі "здаць" свайго паплечнікка, які раптам стаў для іх канкурэнтам.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

Сяргей НАВУМЧЫК

# Пазбаўленьне ад ілюзіяў

**Пры ацэнцы вынікаў выбарчай кампаніі для БНФ часьцей за ўсё гучыць слова "параза". У прынцыпе – гэта так.**

У траўні БНФ выставіў 163 кандыдаты, з іх 34 прайшлі ў другі тур, але па выніках другога туру ніхто ня выйшаў на першае месца. На восеньскіх выбарах Фронт выставіў 62 кандыдаты, 26 прайшлі ў другі тур. Адзінаццаць нашых кандыдатаў па выніках другога туру занялі першыя месцы і былі б абраныя дэпутатамі, каб дзейнічалі ўнесеныя Вярхоўным Саветам папраўкі ў выбарчае заканадаўства. Юрась Беленькі, Валянцін Голубеў, Анатоль Станкевіч толькі таму не атрымалі мандатаў, што на выбары не прыйшло некалькі дзесяткаў чалавек. Практычна ўсе франтаўскія кандыдаты, у параўнаньні з травеньскімі выбарамі, дадалі на сваю карысьць ад 400 да 3 тысячаў галасоў. У БНФ ёсьць устойлівы электарат, прычым, калі параўноўваць леташнія прэзідэнцкія, сёлетнія травеньскія і цяперашнія выбары, то відавочна ягонае павялічэньне.

Можна сказаць і болей – калі б выбары праходзілі па партыйных сьпісах, то БНФ ужо 14 траўня правёў бы ў парламант ня менш за 40 сваіх кандыдатаў. За БНФ, у сукупнасьці, галасуе каля мільёна чалавек – і трэба думаць, як не страціць давер гэтых людзей.

Але пакуль БНФ у парламанце не прадстаўлены.

З усіх дэмакратаў Народны Фронт меў самую прадстаўнічую фракцыю ў Вярхоўным Савеце, якая, пры тым, распрацавала дзесяткі законапраектаў. Некаторыя дэмакратычныя лідары, атрымаўшыя цяпер мандаты, за пяць гадоў ня ўнеслі ніводнага законапраекта. Але – абраліся.

БНФ ніколі не ішоў на сумнеўныя альянсы з уладамі, быў пасьлядоўны ў вызначэньні палітычных прыярытэтаў. Некаторыя дэпутаты новаабранага парламанту прывялі да ўлады Лукашэнку (добра разумеючы, што гэта за асоба), потым адмовіліся ад яго, цяпер – змагаюцца з ім.

Што ж адбылося? Усе здабыткі Народнага Фронту разьбіваліся аб стэрэатыпы, якія трывала замацаваліся ў грамадзкай сьвядомасьці: пачынаючы ад варожага "БНФ – гэта нацыяналісты", да спачувальнага "Як быццам неблагія хлопцы, але акрамя адраджэньня беларускай мовы за душой – нічога".

Перакананы: каб яшчэ у 1990 годзе БНФ заявіў, што ня мае намеру ніякім чынам падымаць праблемы нацыянальна-культурнага Адраджэньня, каб дэпутаты Апазіцыі на сэсіях і ў нешматлікіх эфірах выступалі па-расейску – БНФ сёньня б меў, сама меншае, 60 чалавек у новым парламанце.

Праўда, асабіста я б такую арганізацыю пакінуў. Бо ў палітыцы допушчальна ісьці на поўныя кампрамісы, але гандляваць сьвятым – амаральна.

Сувэрэнітэт, нацыянальнае адраджэньне, рыначныя рэформы – стратэгічны курс БНФ пацьверджаны часам.

А вось што тычыцца тактыкі, то яе трэба аналізаваць і, безумоўна, карэктаваць. Так, выбарчая сістэма, не кажучы ўжо пра дзеяньні выканаўчай улады ды інфармацыйную блакаду, не спрыялі перамозе. Але, перакананы, самае горшае, што сёньня можна рабіць – гэта аднесьці вынікі выбараў выключна на рахунак неспрыяльных зьнешніх абставінаў. Гэта, магчыма, і карысна для заспакаеньня ўласных нэрваў, але для будучых палітычных вынікаў больш карысным будзе аналіз уласных памылак.



У гэтым сэнсе ўдзел у цяперашняй выбарчай кампаніі стаў для Фронту карысным і, спадзяюся, будзе падставаю для развагаў больш грунтоўных за гэты артыкул.

### Ці варта мяняць лідара

Сапраўды, Пазьняк – не ідэальны. Наогул цяжка знайсьці ідэальную асобу. Але тая крытыка, якая гучала ў бок лідара Фронту на зьезьдзе, мне здаецца, ім успрынятая.

Дарэчы, ня варта пераацэньваць так званую "адмоўнасць іміджу". Падчас выбараў шмат хто папракаў Пазьняка халасьцяцтвам. "Як можа чалавек, які не стварыў сям'ю кіраваць дзяржавай?" Што і казаць – даволі значнай часткай насельніцтва, асабліва жанчынамі, аргумант успрымаўся. Праўда, у іншага вядомага палітыка не пыталіся, ці адпавядае штамп ЗАГСу ў ягоным пашпарце рэальнасьці. Папракалі тым, што працаваў фатографам – "хіба фатограф здолее..." (Забываючыся, што электрык Валэнса ці драматург Гавел – здолелі). Перакананы – калі б Пазьняк быў на той час жанаты, дык меў у біяграфіі радок пра кіраўніцтва прадпрыемствам, быў з твару Алэнам Дэлонам, ну і гэтак далей – прыдумалі б нешта іншае. Ну да прыкладу – што мае палюбоўніцаў, рахункі ў банках. Трэба разумець, што сістэма агентуры КДБ нікуды ня зьнікла, такіх людзей – дзесяткі тысячаў, і ёсьць даволі эфэктыўныя мадэлі распаўсюджваньня плётак ды ўбіваньня ў галовы патрэбных стэрэатыпаў. Прыдумалі б што заўгодна, бо Пазьняк, як ніхто, быў небясьпечны для ўладаў. А вось Лукашэнка быў для іх якраз вельмі выгадны (за выключэньнем хіба некалькіх дзесяткаў набліжаных да Кебіча асобаў, ды і яны амаль усе засталіся з партфэлямі).

Уявім, што ў ліпені Пазьняк пайшоў у адстаўку. Што – Фронт набыў бы нейкі іншы імідж? Магчыма, але гэта быў бы вельмі скандальны імідж ("Что это за организация, которая изгнала своего лидера?", "Если БНФ сам признал, что в течение семи лет вел неправильную политику, так стоит ли за него голосовать?") Я ўжо не кажу пра непазьбежны ўнутраны раскол, калі франтаўскія структуры займаліся б высьвятленьнем адносінаў замест выбарчай кампаніі, і пра такую дробязь, што на раскрутку новага лідара патрэбны час, якога проста ўжо не было. Па меншай меры – здарыўся б канфуз, але хутчэй за ўсё, БНФ распаўся б.

Тое ж самае тычыцца і ідэі падзелу БНФ на партыю і рух. Вялікім недахопам цяперашняе выбарчае кампаніі была арганізацыйная слабасьць некаторых суполак Фронту. Няцяжка ўявіць, што падзел яшчэ больш аслабіў бы такія структуры.

### Параза – на карысьць?

Адразу трэба адкінуць адну досыць папулярную тэорыю: нібыта цяпер, калі БНФ цалкам адведзены ад заканадаўчай улады, імідж "незапэцканых" праз колькі гадоў спрацуе на карысьць. Сапраўды, у краінах сталай дэмакратыі незадаволенасьць кіруючым рэжымам азначае амаль аўтаматычны прыход да ўлады апазіцыі. Маральная чысьціня палітыка – адна з галоўных умоў перамогі.

У нас атрымоўваецца інакш, бо значнай часткі насельніцтва бракуе элемэнтарнай палітычнай пісьменнасьці. Хіба дэпутаты Апазіцыі ўваходзілі ва ўрад? Знаходзячыся ў парламанце, мы распрацавалі дзесяткі законапраектаў, якія пры ўмове іх прыняцьця ўжо цяпер далі бы станоўчы вынік. Але мы не маглі ўплываць на ўладу, якую пэрсаніфікаваў ва ўласнае асобе Вячаслаў Францавіч. Вынік: Кебіч – у парламанце, Заблоцкі – не.

Наогул, ня трэба разьлічваць на гістарычную справядлівасьць: абраньне Камая дэпутатам у акрузе на мяжы з чарнобыльскай зонай, сьведчыць, што памяць у людзей вельмі кароткая.

Пасьля начных падзеяў 12 красавіка нам таксама казалі, што усім ахвярам "Альфы" абраньне ў парламант забясьпечане. Але абралі не Баршчэўскага і не Пазьняка – а старшыню КДБ Ягорава, які хоць і ня меў асабіста дачыненьня да злачынства, але ўзначальвае ведамства, якое распрацавала гэтую акцыю. Падняволены народ ня можа любіць слабых – ён паважае і любіць толькі моцных. Нарэшце, ня варта асабліва спадзявацца і на тое, што вось цяпер людзі насыцяцца пракамуністычным парламантам і зробяць усё, каб прывесьці ў ВС дэмакратаў. З 1917 года мы – без перапынку – жывем пры камуністах, але актыўнага жаданьня пазбавіцца ад іх у большасьці нашага насельніцтва нешта ня бачна. Калі ж чытаеш, што сярэднямесячны заробак на Кубе – 7 даляраў, то разумееш: чалавек па сваёй прыродзе – стварэньне цярплівае, і ёсьць, ёсьць рэзэрв і ў нашых марксістаў-ленінцаў.

Хаця ў поўным сэнсе няўдзел БНФ ў парламанце можа прынесьці нейкія карысныя дывідэнды. Прынамсі – Лукашэнку будзе цяжка зваліваць усе грахі на Фронт. Але самае каштоўнае, што можа даць парламанцкая паўза – час аналізу ўласных дзеяньняў.

### Адмовіцца ад манаполіі

Адзін з галоўных, на мой погляд, урокаў выбарчай кампаніі – гэта вопыт кампрамісаў. Як падчас падзелу акругаў паміж дэмакратычнымі партыямі (Фронт пайшоў на значныя саступкі), так і ў пэрыяд агітацыі, калі БНФ упершыню выступіў з сумеснымі заявамі разам з камуністамі, патрабуючы тэлеэфір і заклікаючы людзей прыйсьці на выбары. Палітыка без кампрамісаў – гэта ілюзія, а ілюзіяў трэба пазбаўляцца. Прынамсі ня варта спадзявацца, што БНФ возьме большасьць у парламанце. Ня возьме. Такая сітуацыя – і тое чыста тэарэтычна – была магчымай пад час існаваньня дзьвух палітычных сілаў – БНФ і КПБ-КПСС. Цяпер жа манаполія на дэмакратычнае поле нерэальная, ды і непатрэбная. Увайсьці ў кааліцыю дэмакратычнай большасьці – гэта і трэба трымаць у якасьці мэты.

І таму, мяркую, БНФ павінен пайсьці на самае шчыльнае супрацоўніцтва з дэмакратычнымі сіламі Беларусі – нават пераступіўшы праз нейкія ўласныя крыўды. Шмат памылак у свой час было зроблена Станіславам Шушкевічам, пра іх можна казаць (і трэба казаць, каб пазьбегнуць паўтору). Але ж у галоўным гэты чалавек стаіць на прынцыпах сувэрэнітэту і дэмакратыі. Няпростыя адносіны былі ў некаторых кіраўнікоў Фронту з Пятром Краўчанкам, але ж абраньне палітыка з такім вопытам у парламант – толькі на карысьць грамадзтву і Беларусі. І, дарэчы, менавіта Краўчанка адразу пасьля свайго абраньня заявіў, што будзе абараняць правы беларускай мовы.

Фракцыі, з якімі Фронт можа знайсьці паразуменьне – гэта прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Сацыял-дэмакратычнага Саюзу ды і ня толькі яны. Між іншым, апошнія заявы дэпутата Шарэцкага пра магчымасьць прыватызацыі зямлі (нават замежным інвэстарам), неабходнасьць абмежаваньня паўнамоцтваў прэзідэнта ды ліквідацыі манаполіі на СМІ выяўляюць ідэйныя трансфармацыі Аграрнай партыі. Будзе лепш, калі мы здолеем шукаць магчымасьці супрацоўніцтва нават з тымі палітычнымі сіламі, якія, на першы погляд, здаюцца нам антаганістычнымі.

### Няхай жыве Астанкіна!

Расейская тэма стала найбольш балючай для БНФ, і, урэшце, трансфармавала Фронт у грамадзкай сьвядомасьці ў нейкую экстрэмісцка-русафобскую арганізацыю. Гэта тым больш сумна, што ў пытаньні адносінаў з Расеяй БНФ знаходзіўся, аб'ектыўна, у лепшых стартавых умовах, чым камуністы альбо Лукашэнка. Бо ня мы палівалі брудам Дэкларацыю аб сувэрэнітэце Расіі ў 1990-м, ня лідары БНФ езьдзілі да Хасбулатава падчас крызісу 1993 года, і не Пазьняк праклінаў Ельцына за "развал СССР". Але магчымасьці былі страчаныя. Зноў жа – трэба рабіць высновы.

Я даволі цьвяроза ацэньваю адносіны расейскіх дэмакратаў да праблемы незалежнасьці Беларусі. Але ня думаю, што адсутнасьць кантактаў з дэмакратычным спэктрам Расеі далі нейкія перавагі Фронту. Наўрад ці варта на кожным кроку папракаць маскоўскіх дэмакратаў за жаданьне аб'ядноўваць нашыя краіны. Па-першае, нельга прымусіць чалавека пазбавіцца сваіх перакананьняў папрокамі. Па-другое, такое памкненьне памалу зьнікае, чаму, дарэчы, Лукашэнка сваімі выказваньнямі паспрыяў болей, чым Пазьняк уласнымі артыкуламі.

Днямі мне давялося быць у Маскве, даволі грунтоўна гутарыць з некаторымі палітыкамі, і я быў вымушаны перагледзець сваё крытычнае стаўленьне да карэспандэнткі маскоўскага тэлебачаньня Людмілы Вялюгі. Бо выглядае, што чым часьцей будзе зьяўляцца Лукашэнка на расейскім тэлеэкране – тым хутчэй адбудзецца канчатковае ацьвярэзеньне расейскіх палітыкаў. Акрамя ўсяго іншага, расейскія палітыкі пазбаўленыя поўнай інфармацыі пра нашую краіну. І паколькі мы прызнаем як геаграфічны факт, што Беларусі наканавана існаваць побач з Расеяй, то гэткі ж факт – "маскоўскі" накірунак павінен быць прыярытэтным у зьнешнепалітычнай дзейнасьці Фронту. Падставай для такіх кантактаў, вядома ж, павінны быць нацыянальныя інтарэсы Беларусі (для нас) і інтарэсы РФ – для расейскіх палітыкаў. Будзем памятаць, што нашая мэта – інтэграцыя ў Эўропу, – пры супрацоўніцтве з Расеяй.

### Пад сьцягам праўды

Некаторыя прапануюць Фронту "пасябраваць з прэзідэнтам", прапанаваць яму "канструктыў". Пра сяброўства. Нагадаю, што адразу пасьля інаўгурацыі БНФ заявіў, што 100 дзён ня будзе ні словам крытыкі чапаць прэзідэнта – адказам было абразьлівае пажаданьне з вуснаў Лукашэнкі ў бок Пазьняка "сьвяткаваць не перамогу пад Воршай, а дзень нараджэньня сваёй цешчы" (Цікава – ці віншуе Рыгорыч сваю цешчу?). Цяпер пра канструктыў. 26 верасьня 1994 г. Лукашэнку ад імя Апазіцыі БНФ былі перададзеныя канкрэтныя прапановы як па эканоміцы, так і па іншых сфэрах. Праз некалькі дзён Лукашэнка зганьбіў дэпутатаў Апазіцыі на сэсіі парламанту. У якасьці адказу на падобныя парады я б прывёў і словы Мечыслава Грыба, які мае багаты вопыт спробаў сяброўства з прэзідэнтам, і які засьведчыў, што любы кампраміс у свой бок Лукашэнка ўспрымае як праяву слабасьці.

Калі вы бярэце за каўнер апанэнта пад час навуковай дыскусіі, вы – ня варты павагі дробны хуліган. Але калі на цябе ідуць з арматурай – шукай дошку з цьвіком. Пакуль Лукашэнка ня ступіць на платформу дэмакратыі, незалежнасьці ды рынкавых рэформаў (у чым я глыбока сумняваюся) – ніякія кампрамісы з ім немагчымыя. І тое, што Народны Фронт выступае пасьлядоўным і бескампрамісным апанэнтам Лукашэнкі – ёсьць ня хіба, а перавага БНФ.

У апошнім сваім артыкуле Анатоль Майсеня з непрыхаваным зьдзекам напісаў, што ніколі ўжо БНФ не зьбярэ ні мітынгаў ля Курапатаў, ні шматлюдных шэсьцяў па праспэкце ў Дзень Незалежнасьці – усё гэта, маўляў, у мінулым... Дарэчы, зьдзеклівасьць некаторых аналітыкаў – уражвае. Магчыма, каб не нянавісныя ім Пазьняк і БНФ, ня езьдзілі б яны па Страсбургах ды Парыжах, а сядзелі б у інстытуце м.-л. філасофіі ды вымучвалі дысэртацыю пра ролю Я.Я.Сакалова ў будаўніцтве сьвінакомплексаў. Ранавата забыліся. А наконт шэсьцяў – жорстка памыляецца спадар Майсеня, (зрэшты, яму гэта – не ўпершыню), бо і шэсьці будуць і сьцягі. І патрэбныя яны зусім не дзеля тэлекамэраў *CNN*. Пакуль улады штодня выкатваюць на тэлеэкран лукашэнкавую "капусту" на барвова-балотным палотнішчы, зьневажаючы пачуцьці нацыянальнай годнасьці, – людзям будзе неабходна зьяднацца, каб адчуць сябе народам пад гістарычнымі, асьвечанымі крывёю продкаў сьцягамі. Толькі БНФ – і гэта не пахвальба – можа наладзіць такія шматлюдныя шэсьці ды мітынгі. Але вядома, што асноўная дзейнасьць Фронту павінна палягаць ў іншым рэчышчы. БНФ адметны тым, што акрамя практыкі мітынговай, пазапарламанцкай дзейнасьці, ён мае палітыкаў, якія ўжо валодаюць пяцігадовым вопытам заканатворчай, палітычнай працы. Цяпер трэба спалучыць гэтыя адметнасьці, і грунтоўна заняцца партыйнай працай. Пашырэньне структураў, распрацоўка канкрэтных праграмаў, разьлічаных на розныя прафэсійныя сфэры, іхная прапаганда – усё вымагае ня толькі імпэту, але і прафэсіяналізму. Дададзім сюды сустрэчы з людзьмі як у сталіцы, так і ў правінцыі – рабіць гэта без дэпутацкіх мандатаў будзе больш складана, але рэальна, бо такія гарантыі прадастаўляе Закон аб партыях.

Гэта штодзённая, няўдзячная чарнавая праца. Але інтэлект і працавітасьць прыхільнікаў Фронту пераконваюць, што такая праца абавязкова будзе плённай як для грамадзтва, так і для самога Народнага Фронту.

## У Менску чакаюць, што вырашыць Вашынгтон

**18 сьнежня у Вашынгтоне распачала работу спэцыяльная камісія, якая павінна вызначыць генэральнага падрадчыка і субпадрадчыкаў на рэалізацыю праекта зьнішчэньня на тэрыторыі Беларусі фундамэнтаў стацыянарных збудаваньняў "Крона", на якіх базіраваліся мабільныя пускавыя ўстаноўкі ядзерных ракетаў СС-25.**

Тэндэр на лепшы праект па ліквідацыі мэханічным спосабам гэтых жалезабэтонных пляцовак на працягу двух месяцаў праходзіў пад эгідай упраўленьня ядзернай зброі (DNA) Міністэрства абароны Злучаных Штатаў Амэрыкі. Свае заяўкі на ўдзел у ім накіравалі каля 20-ці беларускіх і амэрыканскіх фірмаў. Для ўдзелу ў рабоце камісіі ў Вашынгтон вылецела беларуская дэлегацыя, у складзе якой –прадстаўнікі шэрагу зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў Беларусі. Хто атрымае права рэалізоўваць праект зьнішчэньня пляцовак (а пад яго урад ЗША выдзяляе каля васьмі мільёнаў даляраў), стане вядома пасьля 22 сьнежня.

*БелаПАН*

## Зьняволеных – на ракетную базу

**У Гезгалах Дзятлаўскага раёну на былой расейскай ваеннай базе плануецца разьмясьціць калонію для зьняволеных.**

Падобная традыцыя існуе яшчэ з часоў СССР. Напрыклад, у Чарнобыльскай зоне (Нараўлянскі раён) калісьці існавала жаночае ЛТП менавіта на колішняй ракетнай базе. Новыя калоніі ў месцах, пакінутых ракетчыкамі, будуць стварацца і ў некаторых іншых рэгіёнах Беларусі, у прыватнасьці, каля Слуцку. Гэта сьведчыць, што вязьняў у нас становіцца ўсё больш. Напрыклад, на Гарадзеншчыне існуе і турма, і калонія, аднак іх, як бачым, ужо стала замала.

**А.З.**

## «Дарагія» мытнікі

**У сувязі са скасаваньнем мытнай мяжы паміж Беларусяй і Расеяй у Крычаве зьявілася 80 новых беспрацоўных.**

Гэта былыя мытнікі. Перад мясцовай службай занятасьці паўстала праблема, якой тут пакуль ня ведалі – па дзеючым заканадаўстве скарочаным мытнікам паўтары гады трэба будзе выплочваць іхны сярэдні заробак, а ён перавышае 2 мільёны на чалавека. На ўсіх скарочаных давядзецца выплочваць па 160 млн. рублёў штомесяц, тым часам як агульны бюджэт фонду сацыяльнай абароны беспрацоўных складае ўсяго 140 млн. рублёў. Прычым, гэта на ўсё: і на выплату дапамогі беспрацоўным, і на іхнае перанавучаньне. Такім чынам, надта дарагімі аказаліся крычаўскія мытнікі.

## У правінцыі – свае крытэрыі

**У той час, як самыя нізкія заробкі ў Крычаўскім раёне ў калгасьнікаў (да 232 тыс. рублёў), самыя высокія – у іхных начальнікаў і абаронцаў.**

Напрыклад, чыноўнікі з раённай управы сельскай гаспадаркі і райкаму галіновага прафсаюзу ўзначальваюць сьпіс самых высокааплатных. Зрэшты і яны атрымліваюць ня так шмат (1,5 мільёны рублёў), але ў правінцыі гэта лічыцца рэдкасьцю.

**У.МІХАЙЛАЎ**

*У Польшчы пішуць...*

## Спачатку – незалежнасьць, а дэмакратыя – потым?

"Прадстаўнік вышэйшага эшалону беларускіх уладаў, які пажадаў застацца невядомым, заявіў мне, што для ягонай краіны сёньня важней за ўсё ўтрымаць незалежнасьць, а час дэмакратыі прыйдзе потым. Ён таксама сказаў, што Захад і частка польскіх палітыкаў вельмі хутка сьпісалі Беларусь у расход. Прэзідэнта Кучму яны прымаюць з усімі ўрачыстасьцямі, а Лукашэнкам грэбуюць, як бы "штурхаючы" яго ў адбымкі Расеі.

З польскага пункту гледжаньня самым горшым варыянтам было б стварэньне новага СССР. Безумоўна, найлепшы варыянт гэта – незалежная Беларусь. Захаваньня свабоднай незалежнай Беларусі хочуць дэмакраты. Аднак сёньня не яны кіруюць у Беларусі. Сыходзячы з гэтага неабходна, ня ўмешваючыся ва ўнутраныя справы нашага суседа, падтрымліваць дэмакратаў, адначасова падтрымліваючы незалежнасьць Беларусі такой, якая яна ёсьць. З надзеяй на тое, што дэмакратыя прыйдзе пазьней".

**Пётар КАСЬЦІНЬСКІ,**
*Rzeczpospolita*

# Вынікі расейскіх выбараў як чарговая праблема для беларускага прэзідэнта

*Правал Лебедзя і Скокава стаў для Лукашэнкі сур'ёзнай непрыемнасьцю*

Вынікі парламанцкіх выбараў у Расеі, безумоўна, яшчэ будуць прааналізаваныя самым дакладным чынам. Нас, аднак, найперш цікавіць магчымы ўплыў расейскіх падзеяў на палітычную сітуацыю ў нашай краіне, і некаторыя невідавочныя ўрокі, што прынесьлі гэтыя выбары.

Усё, як кажуць, пазнаецца ў параўнаньні. І менавіта ў параўнаньні з Расеяй мы можам ацаніць актыўнасьць беларускіх выбаршчыкаў 29 лістапада і 10 сьнежня. Амаль месяц усе каналы расейскага тэлебачаньня былі запоўненыя палітычнай рэклямай, дыскусіямі, сацыялагічнымі прагнозамі. Выбары сталі тэмай №1 на старонках большасьці сур'ёзных газэтаў. За два дні да галасаваньня да грамадзянаў з узважаным словам зьвярнуўся прэзідэнт Расеі.

І якім прыкрым і антыдэмакратычным кантрастам на гэтым фоне выглядала Беларусь, дзе Аляксандар Лукашэнка аб'явіў фактычны байкот выбарам. Але нават у такіх умовах у Беларусі ў першым туры прыняло ўдзел прыблізна столькі ж выбаршчыкаў (61%), колькі і ў Расеі. Відавочна, наколькі моцным было жаданьне значнай часткі беларускага народа абраць заканадаўчую ўладу. Можна спадзявацца, што ў настроях нашых грамадзянаў пайшоў даволі сур'ёзны зрух – "уцёкі ад Лукашэнкі". Пакуль яшчэ ня ў бок дэмакратыі, але адназначна "ад прэзідэнта". Калі ў траўні, вобразна кажучы, народ сказаў прэзідэнту: "Рабі, што хочаш!", то цяпер сэнс заяўленага быў зусім іншы: "Дзьве ўлады лепей за адну".

Непасрэдным вынікам расейскіх выбараў для Беларусі ёсьць пройгрыш тых сілаў, на якія ставіў Лукашэнка. Перамога камуністаў ужо ў пэўнай ступені прааналізаваная – яна была чаканай і прагназуемай, і нешта новае сказаць тут цяжка. Але для нас ня менш важным зьяўляецца поўны правал КРО (Конгресс русских общин), даволі нечаканы для расейскіх сацыёлагаў і палітычнай эліты. Нават у Крамлі разьлічвалі на КРО як на меншае зло, якое павінна было забраць электарат у Жырыноўскага. Аднак Лебедзь, Скокаў і кампанія не перайшлі нават пяціпрацэнтны бар'ер – электарат такіх сілаў не прыймае паўтонаў, а генерал Лебедзь неяк не ўспрымаўся Расеяй прывязаным да пэўнай партыі.

Размовы пра тое, што людзі Лукашэнкі вядуць тайныя перамовы з лідарамі КРО, вяліся даўно, але не знаходзілі канкрэтнага пацьверджаньня. На гэта, дарэчы, вельмі нэрвова адрэагаваў Жырыноўскі, назваўшы Лукашэнку ў адным са сваіх тэлевізійных выступаў "калгасным конюхам". Нечакана такія падозраньні пацьвердзіў Замяталін у чарговай "сацыялагічнай" фальшыўцы. Гэта якраз тое паведамленьне, дзе, са спасылкай на невядомыя расейскія СМІ, невядомыя сацыёлагі вызначылі, што Аляксандра Лукашэнку хочуць бачыць сваім прэзідэнтам 35% грамадзянаў Расеі. На пытаньне "Каго б вы абралі прэзідэнтам Расеі?" "замяталінскія расейцы" адказалі: Лебедзь – 6,5%, Зюганаў – 6,3%, Скокаў – 6,0%... Жырыноўскі – 1,5% (помста за "конюха"). Кожнаму чалавеку зразумелая фальшывасьць і надуманасьць падобных лічбаў: Скокаў увогуле невядомы шырокім масам, што і пацьвердзілі выбары, Жырыноўскі мае відавочна больш за паўтары працэнта.

Замяталін, аднак, чамусьці быў упэўнены сам і, відаць, пераканаў прэзідэнта, што менавіта зьвязка Скокаў – Лебедзь зьяўляецца найбольш пэрспэктыўнай у Расеі, да таго ж блізкай Лукашэнку па духу. Відавочна, што Лукашэнка ня бачыць пэрспэктываў новага прэзідэнцтва для Ельцына, інакш ён не дазволіў бы сабе выказваньні кшталту "ўсе яны будуць праклятыя" (пра белавескіх "зуброў"). Правал КРО стаў прыкрай неспадзяванкай для Лукашэнкі, перад якім цяпер стаіць цяжкая дылема: на каго паставіць у Расеі? Ці працягваць закулісныя перамовы з Лебедзем, які, дарэчы, стаў дэпутатам Думы па аднамандатнай акрузе, ці пайсьці на паклон да "Нашага Дому – Газпрому", ці ўспомніць, нарэшце, што ўсё жыцьцё быў камуністам і пачаць запабягаць перад пераможцамі парламанцкіх выбараў?

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# Які ўплыў можа аказаць новы парламант Беларусі на зьнешнюю палітыку?

*У інтэрвію карэспандэнту СВАБОДЫ лідар Партыі камуністаў Беларусі, дэпутат Сяргей Калякін падкрэсьліў, што ягоныя аднадумцы адназначна падтрымліваюць "усходні вэктар" і зьбіраюцца будаваць "выгадны для Беларусі вайскова-палітычны саюз з Расеяй".*

С.Калякін вітае адкрыцьцё беларуска-расейскай мяжы, таму што "на Захадзе амаль стварылі Савецкі Саюз і ад гэтага не пакутуюць". Вяртаньне СССР на тэрыторыю СНД зьяўляецца "пэрспэктыўнай мэтай" для камуністаў у парламанце. "Аднак аднаўленьне будзе вельмі цяжкім і няпростым", – лічыць Сяргей Калякін.

Ён упэўнены, што "Захад ня дасьць нам інвэстыцыяў да той пары, пакуль не зразумее, што ў нас стабільная сітуацыя. Мы можам нават зямлю абвясьціць аб'ектам куплі-продажу, але інвэстыцыяў ад гэтага не прыбавіцца менавіта з прычыны няпэўнай сітуацыі". Што да МВФ, то ягоныя рэкамэндацыі, на думку таварыша Калякіна ў значнай ступені прыносяць шкоду нашай эканоміцы. Мы проста згубім ва ўгоду Захаду сваю прамысловасьць і навуку. Нам дадуць грошы, каб мы сваімі рукамі гэта зрабілі".

Камэнтуючы пэрспэктывы пашырэньня NATO на ўсход, С.Калякін сказаў, што "не прымае формулу "Партнэрства дзеля NATO". Варшаўскага пакту няма, а NATO ўмацоўваецца і распаўзаецца. Гэта невыгодна Беларусі, якая можа стаць "памежнай краінай". С.Калякін лічыць, што ў гэтым тысячагодзьдзі NATO не пашырыцца на ўсход, бо заходнія краіны маюць справу з Расеяй, якая на пагрозу можа адказаць пагрозай.

**Намесьнік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі, дэпутат Аляксандар Дабравольскі** сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што ў зьнешняй палітыцы, на ягоную думку, "па-ранейшаму будзе пераважаць Усход". Аднак пакуль што "адназначна сьцьвярджаць нельга. Невядома, як сфармуецца фракцыя беспартыйных і ўвогуле ці будзе яна. Фракцыя камуністаў і аграрнікаў, вядома, выбера Ўсход. Мы ж будзем падтрымліваць просты і зразумелы курс. Беларусь павінна дзейнічаць на міжнароднай арэне ў адпаведнасьці са сваімі ўласнымі дзяржаўнымі інтарэсамі, ёсьць яны і ў супрацоўніцтве на Ўсходзе і на Захадзе. Мы хочам сбалансаваць гэта, каб не станавіцца ў хвасьце нейкіх дзяржаваў."

Падводзячы вынікі зьнешнепалітычнай дзейнасьці Беларусі за апошні пэрыяд, А.Дабравольскі адзначыў, што "гэты год паказаў, як бяздумнае падпісаньне пагадненьняў, у прыватнасьці мытнага саюзу, вельмі шкодзіць Беларусі."

Што да магчымага пашырэньня NATO на ўсход, то А.Дабравольскі ніякай пагрозы тут ня бачыць. "Але нам няма сэнсу далучацца да NATO, бо ў нашай Канстытуцыі правільна запісана, што Беларусь нэйтральная краіна, і гэтага трэба прытрымлівацца. У адваротным выпадку мы можам стаць пярэднім краем Расеі або NATO. І першае, і другое аднолькава кепска," – падкрэсьліў дэпутат А.Дабравольскі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Жизнь при катастрофе

*С приближением десятой годовщины Чернобыльской аварии Запад все более настойчиво выступает за закрытие оставшихся реакторов ЧАЭС. Что касается последствий катастрофы, то мнение западных экспертов на этот счет не во всем совпадает с позицией белорусских специалистов*

**"Жизнь при катастрофе" – под таким заголовком влиятельная английская газета *Independent* опубликовала 10 декабря статью западного обозревателя Ричарда Норта.**

Он пишет, что Запад начал узнавать об аварии только спустя два дня после того, как она случилась. "В 8 часов 30 минут 28 апреля техник шведской атомной электростанции в Форсмархе пришел на работу. Зайдя на территорию станции, где все рабочие должны были пройти радиационный контроль, он вспомнил, что что-то забыл в машине. Чтобы выйти за территорию, он должен был пройти еще одну проверку на радиоактивность. Дозиметр резко зашкалил. Техник понял, что загрязнение он получил за пределами станции. В смятении операторы проверили станцию и не обнаружили никаких выбросов в атмосферу. Все казалось нормальным. Тогда принесли карты и сверили с направлением ветра. Следуя по карте на юго-восток, они пришли к выводу – радиация идет от четырех реакторов Чернобыльской станции. Эта новость быстро распространилась по всему западному миру. Через 12 часов московское телевидение передало краткое сообщение о случившемся".

Далее *Independent* приводит цифры о погибших в первые дни после аварии. Во время пожара, пишет газета, сотни людей получили очень высокие дозы радиации, а 237 человек заболели острой лучевой болезнью. "Это может привести к смерти через несколько часов или дней вследствие непоправимого ущерба головному мозгу и кишечнику, или через несколько недель от поражения костного мозга или от ожогов. В действительности же, около 200 человек оставались жить последующие семь лет. Двадцать восемь из них скончались через несколько месяцев после аварии, еще десять умерли к 1993 году (их причину смерти установить не удалось). И это только взрослые, про которых с достаточной уверенностью можно сказать, что они умерли в результате выброса радиоактивных веществ во время аварии. Через почти десять лет после чернобыльской катастрофы, западным средствам массовой информации так и не удалось понять такой простой факт в проблеме радиоактивности: при очень высоких дозах она убивает людей в течение нескольких дней или недель, но многие пораженные, включая большинство больных острой лучевой болезнью, выживают даже при высоких дозах, полученных за короткий срок, а потом становятся в один ряд с теми, кто получил значительно меньшие дозы, и у которых повышена вероятность умереть от рака в течение 10, 20 или более лет. Только для детей, у которых латентный период возникновения рака значительно короче, ситуация существенно отличается".

Ричард Норд описывает также организацию работ по ликвидации последствий аварии. По его словам, Артур Корнеев, физик из города Челябинск-40, "помог организовать сотни людей, которые были посланы на крышу третьего реактора для очистки ее от высокорадиоактивных выбросов. Рабочие носили одежду и обувь, пропитанную свинцом и работали вручную. Каждому из них давалась одна минута десять секунд, чтобы найти и смести все, что возможно, на землю или в зал поврежденного реактора".

Почти 600 тысяч рабочих и солдат – "ликвидаторы" со всех уголков СССР в течение почти трех последующих лет призывались для участия в операциях по очистке. Эти цифры и скорость, с которой работали эти люди, свидетельствуют о силе бывшего советского государства, отмечает *Independent*. Параллельно, практически незамедлительно, началась массовая эвакуация. Из загрязненной зоны было эвакуировано 400 тысяч человек. Вокруг Чернобыля была установлена 30-километровая зона, в пределах которой никому не разрешалось жить.

Ликвидаторы работали под довольно строгим контролем с целью уменьшения получаемой дозы радиации. Биофизик из Британского Национального управления по радиологической защите (*NRPB*) Дэвид Ллойд говорит: "Я провел исследование анализа крови около 850 ликвидаторов и мы пришли к выводу, что они получили от нескольких десятков до трехсот милизивертов". Тем временем, в Британии люди, работающие с ядерными материалами, не должны получать дозу более 50 миллизивертов в год. На практике никто из них такие дозы не получает. Доктор Ллойд добавляет: "При дозе в 50 милизивертов, человек на тысячную долю увеличивает свой риск умереть от рака". Ликвидаторы получили значительно более высокую дозу за короткое время, поэтому их риск увеличился на одну сотую. То есть их риск умереть от рака на 20–25% выше, чем у рабочего из Западной Европы, а по пессимистическим прогнозам – на 21–26% и даже выше, если рабочие курят.

Автор статьи сравнивает эти показатели с тем, о чем говорится на Западе. Западные газеты и телевидение утверждали, что в результате аварии к 1991 году из более полумиллиона ликвидаторов умерло 7 тысяч человек (позднее 15 тысяч). Это может быть правдой, но, по мнению Ричарда Норта, эти цифры могут быть естественны при такой высокой численности населения даже без воздействия радиационного поражения. Он пишет, что "это не значит, что некоторые их тех, кто работал в зоне атомной станции после аварии, не умрут от радиации. Всякое увеличение фоновой радиации увеличивает риск заболевания раком. Люди, как Артур Корнеев, которые за первые два года получили около 1200 миллизивертов, безусловно увеличили свой риск, но не критически. Есть также специалисты, например, сотрудники Российского института ядерной энергии, которые исследовали тоннели, ведущие к фундаменту сгоревшего энергоблока и получили, по словам доктора Ллойда, "от 500 милизивертов до, в одном случае, 13 000 милизивертов. У этого человека на 50% увеличен риск умереть от рака. Скорее всего он и умрет от рака, если не попадет под трамвай. Они тогда думали только о работе. Они просто были очень храбрыми".

*Independent* дает описание саркофага. Отмечается, что "саркофаг – ненадежное сооружение. Построенный в спешке в трудных условиях, он требует постоянного внимания, и на Западе уже звучали угрожающие сообщения о неминуемом взрыве. Фрэнк Эварт, консультант по вопросам ядерной индустрии, бывший член руководящего отдела Альянса, финансируемого ЕС международного консорциума, который планировал построить более безопасное укрытие для четвертого реактора, говорит о том, что украинские инженеры предполагают, что риск разрушения саркофага сейчас примерно 1 к 10. Такой взрыв, по его словам, будет неприятным событием для людей, находящихся там, но маловероятно, что кто-либо получит существенную дозу радиации. Взрыв образует облако радиоактивной пыли, но даже при самых неблагоприятных условиях оно вряд ли продвинется больше, чем на 15 километров". Группа сотрудников Альянса предложила построить новое укрытие над саркофагом и провести очистку близлежащих зданий. Но руководство Чернобыльской АЭС утверждает, что саркофаг не представляет серьезной опасности для взрыва, и в любом случае не нанесет ущерб окружающим строениям (как сообщалось в западной прессе). Работники атомной станции предпринимают усилия для улучшения безопасности саркофага и близлежащих зданий. В то же время около саркофага уже можно ходить (что я и сделал) с минимальными мерами предосторожности (хлопчатобумажный халат, марлевая повязка и шапка). Контрольное помещение разрушенного реактора находится в 24 метрах от высокорадиоактивного расплавленного остова энергоблока. Через десять лет после случившегося уровень радиации в комнате упал до той отметки, когда за час пребывания находящийся в ней получает дозу, равную 1/500 000 допустимой годовой нормы для британских ядерщиков".

Далее *Independent* приводит слова Мэри Моррей, представительницы Национального управления по радиологической защите, которая провела несколько исследований среди населения, живущего в зоне, загрязненной в результате Чернобыльской катастрофы: "Мое впечатление таково, что хотя тот район действительно загрязнен, сейчас дозы радиации не представляют большой проблемы. Проблема в том, что они называют низким уровнем загрязнения, при котором разрешена деятельность". Иными словами, это определение загрязнения включает такой уровень радиации, который не представляет существенной угрозы. Мэри Моррей говорит: "За пределами 30-километровой зоны я не встретила ни одной деревни, которые сейчас имеют серьезные проблемы с радиацией. Я проводила работу в населенных пунктах, которые считаются загрязненными, и средняя доза в них значительно ниже 10 милизивертов в год. Примерно такой уровень дозы имеют жители Конуола из-за наличия естественного радона".

Что касается загрязнения пищевых продуктов, то и здесь картина не такая устрашающая. По словам г-жи Моррей, пища стала менее загрязненной "благодаря изменениям в методах землепользования, например, благодаря использованию химикатов или выращиванию тех культур, которые не поглощают радиацию. Большинство земли по-прежнему принадлежит колхозам, поэтому такой путь возможен. Проблема в большей степени стоит перед частниками, у которых собственный скот и земля, поэтому они будут есть продукты, полученные с загрязненной земли. К сожалению, наиболее традиционное занятие местных жителей – собирание грибов – приносит людям огромный вред, ведь грибы – наиболее загрязненный продукт. То же самое касается и молока, надоенного с коров, которые пасутся на загрязненных полях. Но, по словам г-жи Моррей, "можно нанести еще больший вред, переоценивая радиационный риск. Таким образом, можно напрасно пугать людей и повлиять на их жизнь. С другой стороны, можно тратить бешеные деньги на борьбу с радиацией, в то время как можно помочь людям напрямую".

Автор статьи утверждает, что влияние аварии на здоровье людей значительно преувеличено. По данным финских экспертов, которые провели исследование пятой части детей в Финляндии (одной из наиболее радиоактивно загрязненной в Западной Европе), риск заболевания лейкемией "практически равен нулю". Однако, по словам Ричарда Норта, "мы не можем не волноваться о детях, живущих в загрязненных зонах. Данные об увеличении патологий или других генетических заболеваний среди детей в загрязненных областях после аварии на ЧАЭС отсутствуют. Безусловно, семейные трагедии случаются, как это было с Игорем – одним из детей Чернобыля... Существуют также иные проблемы, как, например, увеличивающаяся заболеваемость раком щитовидной железы. Руководитель программы по радиации и раковым заболеваниям Международного агентства по исследованиям раковых заболеваний Элизабет Кардис говорит: "За последние пять лет обнаружено около 400 случаев заболевания раком щитовидной железы в Беларуси, где насчитывается 2 миллиона детей. В Великобритании, за 30 лет случилось не более 154 заболеваний. Возможно, что причиной этому не только радиация. Возможно, здесь влияют генетические факторы или причина в недостаточном содержании природного йода, что увеличивает вероятность возникновения радиационно-индуцированного рака. Но мы очень удивлены тем, насколько быстро растет число заболеваний. К счастью, рак щитовидной железы наилучшим образом поддается лечению. Мы знаем только один случай смерти ребенка, заболевшего в результате чернобыльской аварии".

Далее в статье отмечаются причина заболевания детской лейкемией. По словам заведующего отдела описательной эпидемиологии Макса Паркина, "нельзя заметить прямого влияния аварии. Мы наблюдали небольшой рост заболеваемости в Европе за последние 10 лет, включая Беларусь, но этот рост не вызван радиацией. Он вызван чем-то иным". Вместе с тем Ричард Норт пишет, что западные медики предсказывают возможный рост заболеваемости в наиболее пострадавшей стране – Беларуси. Но статистика настолько неясна, что нельзя с полной уверенностью сказать про какие-либо тенденции. Поэтому, как отмечает *Independent*, рост заболеваемости раком среди взрослых будет практически незаметным, хотя "по сообщениям на конференции Всемирной организации здравоохранения в ноябре 1995 года, пик заболеваемости раком еще впереди. Но мы можем быть уверены, откуда ждать удар".

Настоящая неопределенность (а на Украине – главная озабоченность) по мнению *Independent*, состоит в том, что неясно будущее самой Чернобыльской АЭС. Зимой в этой стране атомные электростанции производят до 40% электроэнергии, а ЧАЭС – 6%. Жители Украины ходят по неосвещенным улицам, а коровы не доятся из-за частого отключения электричества. Лидеры "большой семерки" объявили о закрытии Чернобыльской АЭС к 2000 году и заявили о своей готовности покрыть расходы, связанные с этим, а также улучшить эффективность работы неатомных станций. Газета отмечает, что в позиции Запада есть логика. На Украине используется тип атомных реакторов, безопасность работы которых вызывает серьезную обеспокоенность. В России и Литве атомные станции значительно безопаснее. Украина не подписала Венскую конвенцию об ответственности за использование атомной энергии. Возможно, представители Запада не могут с достаточной точностью комментировать политическую ситуацию на Украине, позиция которой во многих вопросах неясна. Доктор Майкл Хейнс, до недавнего времени возглавлявший отдел ЕС по вопросам безопасности ядерных реакторов ЧАЭС, жалуется: "Они постоянно твердили весной, что хотят закрыть Чернобыльскую станцию, но уже осенью они говорят "Да, но не сейчас". Такое отношение украинской стороны может объяснить причину, почему среди всех восточноевропейских АЭС Чернобыльская станция единственная, которая не получила помощи от Запада.

Ричард Норт также обеспокоен судьбой рабочих ЧАЭС. Он пишет: "Нужно прислушаться к людям, работающим в Чернобыле. Сергей Парашин, генеральный директор станции думает про судьбу 28 тысяч людей, населяющих новый город Славутич, в 40 км от Чернобыля. По сравнению с остальными городами бывшего Советского Союза это просто рай. Квартиры выглядят не хуже, чем любое западное селение на периферии. В детских садах бассейны, больница оснащена современным оборудованием. Славутич создавался с одной целью – разместить шеститысячный персонал Чернобыльской станции. Мэр города говорит, что закрытие станции будет трагедией".

Газета пишет, что британцы привыкли к таким трагедиям после того, как 200 тысяч английских шахтеров оказались на улице. Куда более убедительным *Independent* кажется другой аргумент Парашина. "Он чувствует, что доверие к ядерной энергии и на Украине, и во всем мире, было сильно подорвано отрицательным опытом Чернобыля". "Человечество должно выработать идею, что оно может добиваться успеха, – говорит директор ЧАЭС. – Мы не только должны давать безопасную электроэнергию в Чернобыле, но и показывать безупречные методы производства". Вместо того, чтобы закрывать станцию, он хочет добиться "благодарности от будущих поколений за то, что ее удалось сохранить".

Статья завершается выводом, что Запад по крайней мере должен считаться с желанием Украины стать достойным членом в семье стран ядерной индустрии. "Если человечество сможет пережить еще одну или, не дай Бог, больше Чернобылей, то непонятно, сможет ли выжить атомная энергетика. Многие западные специалисты хотели бы, чтобы все вопросы решались простым закрытием станции. Но их бабушкам не доведется засыпать в холодных неотапливаемых квартирах", – заканчивается статья в газете *Independent*.

**Подготовил Глеб ЕРМАКОВ**

